# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAD“ |
|---|---|---|

№ 19 (249) — Нядзеля 8 травеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Азіяцка-афрыканская канфэрэнцыя

Заініцыяваная дзяржавамі «блёку Калёмбо», г. зн. Індыяй, Пакістанам, Цэйлёнам, Бірмай і Інданэзіяй, канфэрэнцыя каляровых народаў Азіі й Афрыкі, адбылася 18—24 красавіка сёлета ў Бандунгу на востраве Ява, што ўходзіць у склад інданэзійскай дзяржавы. Гэтая канфэрэнцыя з многіх гледзішчаў была першай у сьвеце такога роду канфэрэнцыяй. Папершае, была яна першай з гледзішча на колькасьць рэпрэзэнтаваных на ёй людзей. У канфэрэнцыі прыймала ўдзел 29 дзяржаваў Азіі й Афрыкі, якія налічваюць разам каля аднаго мільярда 400 мільёнаў людзей, г. зн. больш чымся палавіну насельніцтва ўсяе зямное кулі. Падругое, гэта была першая міжнародная канфэрэнцыя ў сьвеце, на якой ня была прадстаўленая аніводная нацыя белае расы. Годным адцемленьня зьяўляецца і тое, што, хаця канфэрэнцыя зрадзілася з рэсэнтымэнту й пратэсту супраць англа-амэрыканскай палітыкі і наагул супраць «белых», афіцыяльна ўжыванай мовай канфэрэнцыі была ангельская мова. На ніякай іншай мове ўсе ўдзельнікі канфэрэнцыі не маглі паразумецца.

Пасьля доўгіх абмяркоўваньняў парадак дня канфэрэнцыі быў устаноўлены наступны: пытаньне гаспадарскага й культурнага супрацоўніцтва, абароны правоў чалавека, самавызначэньня народаў, пытаньні каляніялізму й расізму, мірнага выкарыстоўваньня атамнае энэргіі, сяброўства Задзіночаных Нацыяў, а таксама мірнага суіснаваньня між Захадам і Ўсходам.

Згары было да прадбачаньня, што канфэрэнцыя, з гледзішча на свой неаднолькавы склад, ня здольная будзе выпрацаваць нейкай супольнай палітычнай праграмы, якая магла-б задаволіць усіх ейных удзельнікаў. Побач з «нэўтралістымі» індыйскага тыпу, тут з аднаго боку прыймалі ўдзел камуністычныя дзяржавы, як чырвоны Кітай і ягоны сатэліт паўночны Ветнам (Ветмін), а з другога — краіны выразна антыкамуністычныя й моцна зьвязаныя з Амэрыкай, такія, як Турэччына, Ірак, Іран, паўдзённы Ветнам, Сыям, Філіпіны, Японія і інш. Былі сярод удзельнікаў і такія краіны Азіі й Афрыкі, якія й самі не здаюць сабе яшчэ справы, да якой арыентацыі яны належаць.

Таму пабойваньні на Захадзе, што канфэрэнцыя можа быць шырака выкарыстаная як трыбуна антызаходняй камуністычнай прапаганды, скіраванай усім сваім астрыём супраць Амэрыкі, ня збыліся. Скарэй наадварот, канфэрэнцыя ў вялікай меры сталася асуджэньнем камунізму й ягонай агрэсыўнай палітыкі, якая многімі дэлегацыямі была інтэрпрэтаваная, як найгоршая форма каляніялізму.

Намаганьні камуністых і іхных «дабравольных сатэлітаў» надаць канфэрэнцыі пракамуністычны характар і скіраваць яе супраць «англа-амэрыканскага каляніялізму» праваліліся. Супрацьлежная група дзяржаваў станоўча процiўставілася камуністычнай дэмагогіі выкрываньнем і дэмаскаваньнем рэальнае загрозы камуністычнага імпэрыялізму й каляніялізму. Пры абмяркоўваньні пытаньня расістаўскай дыскрымінацыі філіпінскі дэлегат **Рамульё** асьветчыў: «Аднэй з найцяжэйшых адказнасьцяў для нас, азіятаў і афрыканцаў, ёсьць тое, каб самым ня трапіць у расістаўскую пастку; а гэта з намі трапіцца, калі на ўпярэджаньні белых супраць нас будзем адказваць собскімі ўпярэджаньнямі супраць белых проста таму, што яны ёсьць белыя».

Ірацкі дэлегат **Эль-Джамалі** схарактарызаваў камунізм, як матарыялістычную рэлігію, якая родзіць ненавісьць між клясамі й народамі; гэта новая форма каляніялізму, больш загрозьлівая для нас усіх, чымся былы (эўрапэйскі) каляніялізм». Гэтае асьветчаньне было горача паддзержанае дэлегацыяй Пакістану.

Але найбольш вымоўным было асуджэньне камуністычнай практыкі Саветаў у Эўропе, якое зрабіў дэлегат Цэйлёну **Котэляваля.** Ён сказаў: «Вазьміце на ўвагу, прыкладам, сатэлітныя дзяржавы пад камуністычнаю ўладаю ў Сярэдняй і Усходняй Эўропе — Мадзяршчыну, Румынію, Баўгарыю, Альбанію, Чэхаславаччыну, Латвію, Летуву, Эстонію й Польшчу! Няўжо гэтыя краіны зьяўляюцца ў меншай меры калёніямі, чымся каляніяльныя ўладаньні ў Афрыцы й Азіі?»

Прадстаўнік чырвонага Кітаю **Чу-Эн-Ляй** пабачыў, што незадаваленьне й навет варожасьць да камунізму сярод удзельнікаў канфэрэнцыі шмат большая, чымся можна было перад гэтым спадзявацца. Таму ягонае выступленьне было вольнае ад заўсёднай у яго агрэсыўнасьці супраць Захаду і «амэрыканскага імпэрыялізму», але вызначалася спакоем і ўмяркаваньнем. Некаторыя на Захадзе баяліся, што Чу-Эн-Ляй будзе старацца атрымаць у Бандунгу маральную згоду на захапленьне Фармозы. Тымчасам аб Фармозе ў сваім выступленьні ён навет ня ўспомніў.

Праўда, пад прэсіяй Чу-Эн-Ляя і Пандыт Нэгру было вычыркнута з канцавога камунікату канфэрэнцыі асуджэньне камунізму, як аднэй з праяваў каляніялізму. Быў таксама вычыркнуты з рэзалюцыі спачатны ў ёй сказ, які сьцьвярджаў, што міжнародныя дактрыны, накіраваныя на апанаваньне народаў шляхамі сілы, інфільтрацыі або дывэрсыйнай дзейнасьці загражаюць вольнасьці й незалежнасьці народаў. Камунікат абмежаваўся да асуджэньня **«ўсякіх праяваў каляніялізму»** і дамагаўся як найшыбчэйшай ліквідацыі гэтага зла. Таму камунікат заклікае каляніяльныя дзяржавы, каб як найхутчэй прызналі незалежнасьць усім каляніяльным народам. Аднак у камунікаце быў апушчаны 15-гадовы тэрмін для ліквідацыі каляніялізму ў сьвеце, чаго якраз дамагаўся камуністычны Кітай. Гэтае злагаджэньне рэзалюцыі на карысьць камуністых трэба ўважаць усяго толькі за ход тактычны, а ня прынцыповае становішча, бо зьмест рэзалюцыі астаўся той самы, хоць і быў выражаны іншымі словамі. Замест

**(Заканчэньне на 2-ой балоне)**

# Жыве Беларусь!

Калі прыязная нам газэта «Українські Вісті» ў нумары за 21 красавіка сёлета давала свой водгук аб сьвяткаваньні беларускай калёніяй у Мюнхэне 37-ай гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, яна прысьвечаны гэтай справе артыкул назвала словамі «Жыве Беларусь!». Больш трапнага й адпаведнага загалоўка для такога артыкулу нельга было прыдумаць. Бо, ўзапраўды, праведзенае сёлета сьвяткаваньне гадавіны Акту 25-га Сакавіка ўва ўсіх большых і меншых асяродзьдзях расьсяленьня Беларусаў у краінах вольнага сьвету было магутнай маніфэстацыяй нашай вернасьці й бязьмежнай адданасьці незалежніцкай ідэі, выражанай у гэтым векапомным Акце, нашай нававажанай гатоўнасьці заўсёды змагацца за ейнае ажыцьцяўленьне, нашага нязломнага перакананьня і цьвёрдай веры ў тое, што — Жыве Беларусь!

Моцна абнадзейваючым нас ёсьць факт, што з павялічэньнем ліку гадоў, якія аддзяляюць нас ад сумнага разьвітаньня з родным краем і потым расьсяленьнем сярод спачуваючых нам народаў вольнага сьвету, нацыянальны дух беларускае эміграцыі, яе глыбокі патрыятызм і вера ў перамогу ня слабнуць, як, здавалася-б, натуральна мусіла-б быць, але мацнеюць і паглыбляюцца. Нашая нацыянальна-вызвольная дзейнасьць на чужыне, як на нутраным, гэтак і вонкавым адрэзку, усьцяж расьце й пашыраецца. Нашая палітычная эміграцыя, сьціплая колькасна, але моцная якасна, з кажным годам што раз больш замацоўвае ўжо здабытыя нацыянальныя пазыцыі і заваёўвае што раз новыя.

Пасьля першых паваенных гадоў вычэкваньня й няпэўнасьці, пасьля нутранага змаганьня за чысьціню нацыянальнае лініі, пасьля вялікай суматохі перасяленьняў у далёкія й блізкія краіны сталага побыту, нашыя суродзічы не растапіліся ў чужой нацыянальнай масе і не астылі ў сваім беларускім патрыятызьме, ня спынілі сваіх нацыянальных імкненьняў. Наадварот, яны ўсюды задзіночыліся ў сваіх арганізацыях, наладзілі сваё грамадзкае, нацыянальнае і навет рэлігійнае жыцьцё. Наладзілася і ўмацавалася беларуская прэса, што зьяўляецца непасрэдным лучнікам паміж намі ўсімі незалежна ад месца нашага прабываньня, пачало пасьпяхова працаваць выдавецтва найвартасьнейшых твораў нашае літаратуры, пачала разьвівацца й прыймаць адпаведны кірунак і форму дзейнасьць палітычная. Сталася так, што кажнае большае ці меншае асяродзьдзе Беларусаў на чужыне — гэта маленечкая частка Беларусі, пры гэтым Беларусі вольнай у процiўвагу Беларусі паняволенай і бязьлітасна мучанай чырвоным акупантам.

Усе свае дасягненьні на чужыне нашыя суродзічы прывыклі падсумоўваць ужо традыцыйна кажнага году ў дзень свайго нацыянальнага сьвята 25-га Сакавіка. Зьмешчаныя ў папярэдніх нумарох «Бацькаўшчыны» справаздачы із сьвяткаваньняў 25-га Сакавіка некаторых нашых эміграцыйных асяродзьдзяў сёлета паказваюць, што ня былі гэта сухія й толькі фармальныя адзначаньні нашага нацыянальнага сьвята, але стыхійным выбухам жывых і сьвежых нацыянальных пачуцьцяў, магутнай маніфэстацыяй незалежніцкіх імкненьняў нашых суродзічаў на эміграцыі, што зьяўляюцца тэй маленькай, але неадлучнай часткай Беларускага Народу, якая мае шчасьлівую магчымасьць гэтыя свае імкненьні маніфэставаць публічна.

Яшчэ больш эфэктоўна прадстаўляюцца нашыя дасягненьні ў галіне вонкавай дзейнасьці й рэпрэзэнтацыі. Калі яшчэ некалькі год таму назад мы толькі навязвалі кантакты й дачыненьні з нацыянальнымі прадстаўніцтвамі эміграцыяў іншых паняволеных народаў, дык сяньня ўдзельная вага Беларусаў у палітычным жыцьці й дзейнасьці эміграцыяў з Усходу належна замацаваная. Адным з прыкладаў гэтага можа служыць факт, што такі паважны цэнтр эміграцыяў нерасейскіх народаў, як Парыскі Блёк, зь якім сур'ёзна лічацца адказныя палітычныя дзейнікі Захаду, як з аўтарытэтным палітычным фактарам, паўстаў зь беларускай ініцыятывы, разьвіваецца й дзеіць далей пры нашым актыўным удзеле. Калі яшчэ ў першых паваенных гадох заходнія альянты навет не хацелі нас вызнаваць за асобную й апрычоную нацыю, дык сяньня беларуская праблеме ў краінах Захаду здабывае што раз большую папулярнасьць і становіцца важнай неадлучнай часткай цэлай праблемы падсавецкага Усходу. Сяньня сярод народаў і палітыкаў дэмакратычнага Захаду мы здабываем што раз шырэйшае прызнаньне нашых нацыянальных правоў і што раз глыбейшае спачуваньне нашаму сучаснаму лёсу.

Найлепшым гэтага доказам і пацьверджаньнем няхай будзе тое, што сёлета ў дзень нашага нацыянальнага сьвята, у дзень дзяржаўнасьці Беларусі нас афіцыйна віталі, выказвалі сваё прызнаньне нашым нацыянальным імкненьням і веру ў перамогу незалежніцкай ідэі Беларускага Народу найбольш адказныя прадстаўнікі Амэрыканскага Кангрэсу, сэнатары й кангрэсмэны, а губэрнатары некаторых штатаў ЗША выдалі афіцыяльныя дэклярацыі аб абвешчаньні дня 25-га сакавіка Беларускім Днём гэтых штатаў ды заклікалі ўсіх жыхароў штатаў належна ўшанаваць гэты Дзень. Ня без значэньня астаецца й тое, што ў сталіцы Вялікабрытаніі Лёндане ўрачыстае сьвяткаваньне 25-га Сакавіка арганізавалі сябры брытанскаге парляманту, выказваючы гэтым сваё вызнаньне незалежніцкіх імкненьняў Беларускага Народу ды падчыркваючы ў сваіх выступленьнях вялікія творчыя здольнасьці й духовую сілу Беларусаў. Вымоўным доказам зразуменьня Захадам нашых нацыянальна-вызвольных імкненьняў і салідарнасьці зь імі няхай будзе шчырая рэакцыя гішпанскага грамадзянства, выказаная з нагоды сакавіковае ўрачыстасьці на балонах сталічнае прэсы Мадрыду і ў гішпанскім радыё. Асабліва прыемным будзе адзначыць прыхільныя водгукі аб гадавіне 25-га Сакавіка на балонах прэсы шматнацыянальнай эміграцыі з за зялезнай заслоны, у першую чаргу часткі прэсы польскай і ўкраінскай.

Гэтак ня гледзячы на ўсе цяжкасьці й ненармальнасьці эмігранцкага жыцьця, ня гледзячы на ўсю варожую акцыю й супрацьбеларускую прапаганду няпрыязных нам сілаў, нашыя рады якасна мацнеюць, а нашая нацыянальная справа здабывае што раз большае прызнаньне й аўтарытэт. Гэта ёсьць найлепшай зарукай, што беларуская нацыянальна-вызвольная ідэя глыбака запусьціла свае карэньні ў нашай беларускай глебе, з чым пачынаюць паважна лічыцца й народы вольнага сьвету. Гэта бясспрэчны доказ таго, што, як прарочыў нам наш вялікі Купала, «не загіне край забраны, пакуль будуць людзі!..»

**Ст. Крушыніч**

# Палка з двума канцамі

Апошнім часам на Беларусі было ўзьнята шмат гаварэньня й пісаніны вакол так званага палепшаньня дабрабыту працоўных, пабольшаньня прадукцыі, палепшаньня ейнае якасьці, зьніжэньня сабекошту выпусканых тавараў і падобных рэчаў, бадай недасягальных у ўмовах сцэнтралізаванае ды зьбюракратызаванае народнае гаспадаркі.

Савецкі эканамічны рэжым наганяе на працоўныя масы неперамолжную апатыю да ўсялякага высілку, каб заашчаджваць дзяржаўнае майно. Бо там, дзе паняцьце дзяржавы зьвялося да паняцьця ненасытнага дракона, і дзе фізычны высілак аплачваецца вельмі-ж малымі жыцьцёвымі выгадамі, — зацікаўленьне працай траціць увесь свой сэнс, і яго надта цяжка ўтрымаць у насельніцтве пустымі патрыятычнымі лёзунгамі і шантажом. Там, дзе дзяржава зьдзекуецца над працоўным, зьдзек гэты, быццам тая палка, б'е другім канцом і па дзяржаве.

Аб тым, што беларускае насельніцтва церпіць ад бальшавіцкага дзяржаўнага прыгону, нам аж задобра ведама. А аб тым, што савецкая дзяржава церпіць ад свайго-ж прыгону, мы яшчэ лішні раз даведваемся із «Зьвязды» з 13. III. 55) (гл. перадавіцу: «За строгі рэжым эканоміі»).

«На многіх прадпрыемствах рэспублікі, — чытаем мы там, — дапускаюцца сур'ёзныя недахопы ў выкарыстаньні матар'яльных і грашовых сродкаў. Асобныя кіраўнікі яшчэ не навучыліся весьці лік кажнай дзяржаўнай капейцы, недастаткова глыбока цікавяцца пытаньнямі зьніжэньня сабекошту. Нельга лічыць нармальным такое становішча, калі пад бокам у Міністэрства прамысловых тавараў шырокага ўжытку БССР на працягу доўгага часу ня выконваюць заданьняў паводля важнейшых паказчыкаў, працуюць із стратамі такія буйныя прадпрыемствы, як менская абутковая хвабрыка ймя Кагановіча і швэйная хвабрыка ймя Крупскай. У выніку перавыдаткаваньня сыравіны, матар'ялаў, фонду зарплаты, дапушчэньня вялікага браку страты на гэтых хвабрыках складаюць мільёны рублёў.

«Нажаль, у сыстэме лёгкай прамысловасьці рэспублікі названыя прадпрыемствы не зьяўляюцца выключэньнем. Ня выконваюць дзяржаўных плянаў выпуску прадукцыі, росту прадукцыйнасьці працы і зьніжэньня сабекошту шмат якія іншыя прадпрыемствы...

«Прадпрыемствы стала папаўняюцца найнавейшай тэхнікай, павышаецца кваліфікацыя работнікаў. І ўсё-ж на паасобных прадпрыемствах рост прадукцыйнасьці працы адстае ад росту заработнай платы...

«Вялікія страты нясуць прадпрыемствы ад браку й зьніжэньня гатунковасьці прадукцыі. Сур'ёзна адбіваецца брак, асабліва брак ліцьця, на гаспадарчай дзейнасьці шэрагу машынабудаўнічых прадпрыемстваў. На некаторых прадпрыемствах лічаць гэта няўхільным злом і ня прымаюць рашучых мераў на палепшаньне працы ліцейных цэхаў...

«...Шмат якія будаўнічыя арганізацыі працуюць яшчэ із стратамі, ня выконваюць заданьняў зьніжэньня коштаў будаўніцтва. У Міністэрстве гарадзкога й сельскага будаўніцтва БССР падаражэньне будаўнічых работ вызначаецца сотнямі тысяч рублёў. Такое становішча — вынік сур'ёзных недахопаў у арганізацыі будаўніцтва. На бальшыні будоўляў рэспублікі яшчэ нізкі ўзровень індустрыялізацыі будаўніцтва, нездавальняюча выкарыстоўваюцца зборныя зялезабэтонныя канструкцыі й дэталі, вялікія прастоі машын і мэханізмаў...»

# Навуковая канфэрэнцыя ў Мюнхэне

25-27 красавіка гг. адбылася ў Мюнхэне навуковая канфэрэнцыя, ладжаная Інстытутам для Вывучэньня Гісторыі й Культўры СССР. Тэмай канфэрэнцыі была савецкая палітыка г. зв. «крутога ўздыму», вынікі яе й прычыны ейнае няўдачы. У сувязі з тым, што гэтым разам на парадак дня канфэрэнцыя паставіла толькі эканамічны аспэкт савецкае рэальнасьці, на яе былі запрошаныя пераважна экспэрты ў пытаньнях савецкае эканомікі.

Сярод 117 удзельнікаў канфэрэнцыі былі навукоўцы паасобных народаў СССР, а таксама народаў вольнага сьвету. Некаторыя зь іх прыбылі аж з ЗША й Канады. Зь Беларусаў, апрача працаўнікоў Інстытуту, прысутнічалі др. Жук-Грышкевіч, сп. А. Яловіч ды запрошаны з Бэльгіі мгр. В. Кіпель.

У прывітальным слове дырэктар Інстытуту зьвярнуў увагу прысутных на той факт, што савецкія інтрыгі й лаянка, скіраваная супраць Інстытуту, даказваюць якраз, што бальшавікоў пачынае непакоіць тая праўда аб Савецкім Саюзе, якую сваёй працай Інстытут нясе вольнаму сьвету.

У сваіх рэфэратах паасобныя спэцыялістыя далі глыбокую аналізу сучаснага стану ў галоўных галінах савецкае эканомікі. З прыведзеных матарыялаў відаць, што найслабейшым пунктам савецкае эканомікі і які найбольш цяпер турбуе камуністычную партыю, зьўляецца сельская гаспадарка. Каб прахарчаваць сваё насельніцтва, Саветам запраўды патрэбны гэты «круты ўздым». Аднак з цэлага шэрагу прыведзеных фактаў выглядае, што ў гэтай галіне савецкае кіраўніцтва ня можа асягнуць пастаўленых перад сабой мэтаў.

Трэба з прыемнасьцяй адзначыць, што прачытаны беларускім навуковым працаўніком Інстытуту сп. В. Будзімерам рэфэрат на тэму агародніцтва й бульбы ды зьвязанай з гэтым савецкай прамысловасьці, знайшоў высокую ацэну прысутных; у цягу канфэрэнцыі гэты рэфэрат цытаваўся колькі разоў.

Матарыялы канфэрэнцыі, як і дагэтуль практыкавалася, будуць апублікаваныя асобным выданьнем.

На заканчэньне была наладжаная прэсавая канфэрэнцыя, каб пазнаёміць прэсу вольнага сьвету з мэтай і праробленай працай навуковай канфэрэнцыі, а таксама з мэтамі і працай Інстытуту.

# Скончма дыскусію пра „распакоуваньне“!

Скончма ў тым значэньню, што давядзём яе да яснага, пераконуючага канца. Дзякуючы артыкулам В. Лазукі «Пс... ды ў чамадан» («Бацькаўшчына» № 8) і С. Кліма «Што рабіць?» (Бацькаўшчына» № 10), з каторымі я згаджаюся (з адным выняткам што да Лазукі), мала засталося да канчальнага высьненьня тэмы. Праблема зводзіцца да пытаньня: якое мае быць жыцьцё й дзеяньне беларускае эміграцыі, каб яна была найкарысьнейшая беларускай справе? Прынцып найкарысьнейшасьці беларускай нацыянальнай справе трэба тарнаваць у ўсіх прыпадках як у дачыненьню да цэлае эміграцыі, так і да кажнага эміграната паасобку. Ул. Нямановіч («Сумлевы й пэўнасьць» — «Бацькаўшчына» № 3) цьвердзе, што «калі сабе купіць фарму ахвярны селянін-патрыёт.., дык можам мець надзею, што будзе ён двойчы карысны. Калі-ж гэта будзе інтэлігент, здольны да іншае працы (відавочна трэба разумець нацыянальна-інтэлігенцкае — Б. Ск.), дык кінем у яго каменем пагарды». Значыцца, паводля Немановіча ёсьць магчымасьць мець тую працу ды інтэлігенцкую, да каторае чалавек здольны. Шчасьлівы Немановіч чалавек, што можа так рабіць! Няма дзіва, што мы зь ім розьнімся ў паглядах на работу нашае эміграцыі. Ён знае ідэяльнае палажэньне эміграцыі, а мы такога палаженьня ня знаем (пад «мы» я ніколі не разумею аднаго сябе).

У Задзіночаных Штатах ёсьць ладне беларускае інтэлігенцыі і толькі адзін зь іх мае працу інтэлігенцкую болей меней беларускую, другі такую-ж часткава беларускую, трэйці мае часовую інтэлігенцкую працу, але ня маючую нічога супольнага зь беларушчынаю, зн. для беларускае справы не карысьнейшую за працу на хвабрыцы. Да гэтага трэба дадаць яшчэ лекараў, але-ж ніхто зь іх, апрача свае спэцыяльнасьці, нічым іншым ня хоча займацца і не займаецца. Магчымасьці зьменяцца ў тых, што паканчаюць высокія амэрыканскія школы; яны ня пойдуць на фарму, каб сп. Нямановіч нат гнаў іх на яе. Цяпеража, з выняткам тымчасам менаваных, няма магчымасьці выбіраць інтэлігенцкае працы, можна выбіраць толькі хвабрыкі і пад. і то не заўсёды. Хто-бы тут купляў фарму, калі-б мог мець інтэлігенцкую працу?! Ці-ж трэба так ставіцца, як Нямановіч, калі хто, замест рабіць на машыне або заставацца безработным, купіў фарму? Якая ад гэтага шкода? Чаму ён мае быць меней карысны на фарме, як на хвабрыцы? Усе нацыянальныя групы тут уважаюць, што эмігранты найляпей заховуюць сваю нацыянальнасьць на сяле. Пакуль што толькі адна радзіма, праўда інтэлігентная, з новых беларускіх эмігрантаў, апынуўшыся даўгі час без работы, купіла малую няўладжаную фарму (бяз снасьці, жывёлы й будынкаў, адно з хатаю). Калі яны купілі выгодна, трэба толькі цешыцца, калі нявыгодна, маем іх шкадаваць, але ніколі ня ганіць. Дамкоў пакуплялі ладне, але з такіх дамкоў, якія могуць купіць новыя нашыя эмігранты, яны жыць ня будуць. Можна заціміць, што, дзякуючы лёгкаму паверу (крэдыту), ня трэба ў Задзіночаных Штатах быць багатаму, каб купіць малую фарму або дамок. Адлі трэба падчыркнуць, што чым лепшае матар'яльнае палажэньне сьвядомага Беларуса, тым болей ад яго можам спадзявацца карысьці нашай справе. У праціўным прыпадку, мы мусілі-б імкнуцца, каб усе былі найбяднейшыя.

Цяпер што да прыйма грамадзянства краю перасяленьня. Гэта залежа ад краю. У Задзіночаных Штатах напэўна трэба прымаць грамадзянства. Ёсьць працы — і ня мала іх — каторыя могуць дастаць толькі амэрыканскія грамадзяне, прыкладам ахвіцэрам можа быць толькі амэрыканскі грамадзянін. А што да войска, дык усё роўна, грамадзянін ты ці не, у Задзіночаных Штатах да войска бяруць. Адылі, гэта яшчэ ня знача, што нашая моладзь тут для беларускага войска страчана, як думае сп. Нямановіч. Калі ў прыпадку вайны мы пераканаем Амэрыканцаў, што карысьней для агульнай справы будзе, калі будуць апрычоныя беларускія вайсковыя адзінкі, то яны будуць. А пераканаць лягчэй могуць грамадзяне. Апрача таго, цяперака па 5-ёх гадох жыцьця ў Амэрыцы, тут лёгка адзержыць амэрыканскае грамадзянства, навет на палітычных працэсах нехаценьне быць амэрыканскім грамадзянінам служа ад'емнай рысай пры характарыстыцы. Але можа не назаўсёды гэтак застанецца. Быў час, калі кажны здаровы чалавек мог прыехаць да Амэрыкі, але па першай сьветнай вайне Амэрыка ўстанавіла квоту, і цяпер ня лёгка лучыць да Задзіночаных Штатаў. Можа з часам так стацца і з грамадзянствам, што яго цяжка будзе адзержыць; можа стацца нат так, што Задзіночаныя Штаты захочуць пазбыцца неграмадзян, каб не адыймалі ад грамадзян жыцьцёвых магчымасьцяў.

Што да палітычных дзеячоў і сяброў Рады БНР, каторыя паводля аўтараў артыкулаў на разгляданую тэму, з выняткам сп. сп. Лазукі й Кліма, не павінны старацца грамадзянства, то яны ў такім прыпадку апынуліся-б наагул у цяжшым палажэньню за іншых, а горшае палажэньне ідэйнага Беларуса адбіваецца на ягонай нацыянальнай працы. І чаму гэта, калі сябра Рады БНР прыйме амэрыканскае грамадзянства, дык ён ня мае заставацца ў Радзе? Ці ён ад гэтага робіцца дурнейшы і меней пэўны? Лёяльнасьць да Задзіночаных Штатаў ані не калідуе зь беларускім патрыётызмам і зь лёяльнасьцяй да беларускае справы. У свой час Прэзыдэнт М. Абрамчык меў у Нью-Ёрку на гэтую тэму гутарку зь іншымі сябрамі Рады БНР. Ён і ўсе былі за прыймо грамадзянства і толькі адзін быў супраць. Цяпер і гэны адзін за. Дыкжэ болей для беларускае справы могуць зрабіць палітычныя і непалітычныя дзеячы, будучы амэрыканскімі грамадзянамі, болей у Амэрыцы й вонках, бо амэрыканскаму грамадзяніну ўсюдых вольная дарога. Беларусы павінны быць радыя, што амэрыканская адміністрацыя не мяшаецца да сяброўства ў Радзе БНР. Праўда, не мяшаецца хіба дзеля таго, што ня прызнаець Рады БНР, як такую, але ня прызнавала-б і тады, калі-б у ёй ня было амэрыканскіх грамадзян, як ня прызнаець падобных эгзыльных установаў іншых народаў. Што да грамадзянства, дык тое, што ёсьць у Задзіночаных Штатах, праўдападобна можна аднесьці й да Канады, а як пішуць з Паўднёвае Амэрыкі, дык і там тое самае. Калі-б сталася так, што грамадзяне краёў перасяленьня, сябры Рады БНР, былі вылучаныя зь яе, дык тыя зь іх, каторыя ўважаюць сваё быцьцё ў Радзе патрэбным беларускай справе, стварылі-б другую падобную арганізацыю, паралельную Радзе.

Нельга згадзіцца з тым, што нашая эміграцыя калісь асымілюецца. Жыды дзьве тысячы год эмігрантамі і не асыміляваліся. Чаму-ж мы ня маем вытрываць пры сваім народзе? Але гэта ня знача, што даволі сказаць «не асымілюемся», каб не асыміляваліся. Сказаць і казаць трэба бо што ня будзе сказана, тое ня будзе зроблена. Але аднаго казаньня мала. Трэба ствaрыць умовы, канечне патрэбныя дзеля неасыміляваньня.

Аднэй із такіх канечных умоваў ёсьць ня выходзіць на эміграцыі замуж за чужнікоў і не жаніцца з чужынцамі. Ці гэта будзе аўтахтон (-ка) ці іншы чужнік (іца), розьніцы няма. Мяшаныя жанімствы на чужыне вядуць да бязумоўнае асыміляцыі ўжо першага патомства мяшаных радзімаў. Гэта бачым у ўсіх чыста нацыянальнасьцяў, у тым ліку і ў Жыдоў. Ці бачыў хто ў Амэрыцы мяшанае жанімства, каторага дзеці былі-б не асыміляваныя? Гэтакіх жанімстваў нямашака. Вынятак ёсьць у Палякоў і Расейцаў, калі яны жэняцца зь несьвядомымі Беларусамі, вось-жа зь ідэялёгічнымі Палякамі або зь ідэялёгічнымі Расейцамі. Не адно ў Амэрыцы да пэўнае асыміляцыі вядуць мяшаныя жанімствы. Дзеці Беларусаў і іншых, каторыя, застаўшыся ў Чэхаславаччыне пажаніліся з Чэшкамі, усе чыста чуюцца Чэхамі, а бальшыня й бацькоў нячэхаў перасталі быць актыўнымі сябрамі свайго народу. Палянізацыя беларуска-летувіскага пагранічча ў Віленшчыне сталася галоўна з прычыны мяшаных беларуска-летувіскіх жанімстваў, бо беларуская старана не хацела вучыцца «простае» мовы летувіскае, а летувіская «простае» мовы беларускае, дык абедзьве выбіралі нэўтральную «панскую» польскую, дарма што яна ў іх была калекая.

Праўду кажа сп. Лазука, што ў новай эміграцыі беларускай мужчынаў болей за жанок, але ў дарастаючага пакаленьня тае-ж эміграцыі хлапцоў ня болей за дзяўчат. Апрача таго, ня ведаю, як у Канадзе, але ў Задзіночаных Штатах і ў Паўднёвай Амэрыцы дастатнае жарало кандыдатак да замужжа ёсьць сярод беларускае старое эміграцыі. Жаніцца зь імі падвойная карысьць — і жонка ўсьвядоміцца і дзеці ня будуць страчаныя.

Пра дзьве іншыя ўмовы неасыміляваньня другім разам.

**Брачыслаў Скарыніч**

# Багатая Беларусь, ды не для усіх

Перад намі два нумары «Зьвязды», а ў кажным зь іх па перадавіцы: «Берагчы прыродныя багацьці рэспублікі!» («Зьвязда» з 25. III. 55) і «Лес — наша багацьце» («Зьвязда» з 15. IV. 55). Вось што мы можам даведацца пра беларускія прыродныя багацьці з гэтых двух нумароў беларускае савецкае газэты:

**Багатая беларуская зямля!**

«Шчодра надзелена прыроднымі багацьцямі наша рэспубліка. Акіньце позіркам прасторы Беларусі, і вы ўбачыце ў кажным ейным кутку зялёныя масывы лясоў, густое перапляценьне йстужакрэк, а на поўдні й поўначы — безьліч блакітных вязёраў. Беларускія лясы багатыя такімі каштоўнымі пародамі дзікіх зьвяроў, як ласі, казулі, бабры, куніцы, лісы. Багатае й птушынае царства — ёсьць мноства дзікіх качак, цецярукоў, курапатак, глушцоў, рабчыкаў. У шматлікіх вадаёмах нямала каштоўнай прамысловай рыбы.»

**Вялікія страты лесу падчас вайны.**

«У гады вайны ў шэрагу месцаў лясы былі зьнішчаны амаль поўнасьцяй. Прыкладам, у Горадзенскай вобласьці маралеснымі аказаліся 11 раёнаў, у Віцебскай — 6, у Брэсцкай — 5 раёнаў... Прыкметна зьнізіліся запасы сьпелай драўніны.»

**Сёлетняя праграма вырошчваньня лесу.**

«Абыймо сёлетніх лесакультурных працаў надзвычай вялікае. Трэба аблясіць больш за 40 тысяч гэктараў зямель дзяржаўнага ляснога фонду і пасадзіць 12,9 тысячы гэктараў лесу ў калгасах.»

**Надзея на ... школьнікаў**

«Сьціслыя тэрміны й вялікае абыймо працы патрабуюць значнае колькасьці сэзоннае работніцкае сілы. У гэтых адносінах шмат якія лясныя гаспадаркі рэспублікі адчуваюць цяжкасьці, якія ўскладняюцца тым, што веснавыя лесакультурныя работы супадаюць з пачаткам палявых работаў у калгасах... **Да саджэньня й сяўбы лесу трэба шырока прыцягнуць школьнікаў старэйшых кляс саў»** (падкр. у цыт. нашыя — Перап.).

**Пасадзім лес уручную!**

«Навуковыя супрацоўнікі ўсё яшчэ ў вялікім даўгу перад ляснoй гаспадаркай. Узяць хоць-бы такое надзённае пытаньне, як мэханізацыя працы. Пакуль што **амаль усе працаёмкія работы лясныя гаспадаркі рэспублікі праводзяць уручную.** Вельмі мала зрабілі навукоўцы для павышэньня прадуктыўнасьці лясоў, асушэньня забалочаных плошчаў (вядома, што ў нашай рэспубліцы значная частка лясоў знаходзіцца на балоцістых або надта вільготных глебах), разьвязаньня шэрагу праблем эканамічнага характару і г. д.» (Ага, ёсьць і на гэты раз казёл адпушчэньня — Інстытут лесу пры АН БССР! — Перап.).

**Дзяржава ахоўвае сваё багацьце...**

««На варце аховы прыродных багацьцяў стаяць савецкія законы, якія строга караюць тых, хто замахваецца на грамадзкае дабро, хто ў сваіх карысьлівых мэтах грэбуе інтарэсамі дзяржавы... Дзяржава штогоду выдаткоўвае вялізарныя сродкі для аховы прыродных багацьцяў... Вельмі важна разам з далейшымі пасадкамі лесу павесьці самую рашучую барацьбу за захаваньне існуючых насаджэньняў. З захаваньнем-жа гэтых насаджэньняў справы стаяць пакульшто зусім нездавальняюча.»

**... а насельніцтву неяк жыць трэба**

«У Шклоўскім лясьніцтве Магілёўскай вобласьці з году ў год дапускаецца вялікая колькасьць самавольных пасечак лесу. **Толькі летась тут было зарэгістравана 900 самавольных пасечак...**

«Немалая шкода нанесена менскім прыгарадным лясом збоку некаторых гараджан. якія самавольна будуюць дамы на тэрыторыі дзяржаўнага ляснога фонду.

«Ёсьць факты разбазарваньня калгасных лясоў. **У Гомельскай вобласьці, прыкладам, летась незаконна высечаны калгасныя лясы на сотні тысяч рублёў.»**

**Бюракраты гуляюць у паляваньне**

«...асобы, закліканыя стаяць на варце законаў, часам самі груба іх парушаюць. Абураючы выпадак меў месца ў лютым гэтага году ў Грэскім раёне. Пракурор раёну тав. Валчок разам з пракурорам суседняга — Слуцкага раёну тав. Бродзкім арганізавалі паляваньне на ласёў, што катэгарычна забаронена законам. Ня дзіва пасьля гэтага, што тут няма ўправы і на заўзятага браканьера намесьніка старшыні калгасу «Чырвоны Кастрычнік» Грэскага раёну Акуліча і шмат якіх іншых асоб, якія падрапежніцку зьнішчаюць у лясох каштоўных зьвяроў...

«Лясьнічыя й аб'ежджыкі часта самі робяцца браканьерамі... Так, лясьнічы Пружанскага лесгасу Матвееў арганізаваў у забароненыя тэрміны паляваньне на дзікаў. Летась толькі на тэрыторыі Чэрыкаўскага раёну сіламі грамадзкасьці было выяўлена 45 выпадкаў недазволенага паляваньня, а работнікі ляснoй аховы не затрымалі ніводнага браканьера.»

**Акадэмія навук і Міністэрства саўгасаў вудзяць рыбку...**

«Выяўлена, што забароненымі мэтадамі, якія ня маюць нічога агульнага із спортам, ловяць рыбу паасобныя работнікі Акадэміі навук БССР, Міністэрства саўгасаў БССР і інш.»

**... а «Бальшавік» — проста труціць**

«Быў выпадак, калі з тэрыторыі Менскага гарбарнага заводу «Бальшавік» спусьцілі ў Сьвіслач ядавітую вадкасьць, і ўся рыба на дзесяткі кілямэтраў уніз па цячэньні ракі аказалася атручанай.»

**(Паводля газэты «Зьвязда» з 25 сакавіка і 15 красавіка 1955 г.)**

# Азіяцка-афрыканская канфэрэнцыя

**(Заканчэньне зь 1-ай балоны)**

вычыркнутага асуджэньня камуністычнага каляніялізму было ўведзенае асуджэньне «ўсякіх праяваў каляніялізму», пад якімі ўдзельнікі канфэрэнцыі, хіба-ж, разумелі і каляніялізм камуністычны.

Гэтак камуністычныя намеры выкарыстаць канфэрэнцыю ў Бандунгу для мэтаў сваей антызаходняй прапаганды праваліліся. Тым ня меней, канфэрэнцыя, як было ўжо адцемлена, аказалася няздольнай выпрацаваць супольную палітычную лінію на будучыню. Мроі Пандыт Нэгру сфармаваць з каляровых народаў Азіі й Афрыкі нэўтральную «трэйцюю сілу», незалежную ад Захаду і Ўсходу, аказаліся далёка перадчаснымі. Прычына гэтай няўдачы ляжыць ня толькі ў успомненай ужо намі палітычнай неаднапітасьці ўдзельнікаў канфэрэнцыі, але галоўна ў тым, што каб ствaрыць запраўдную сілу, трэба самому быць сільным. А гэтага якраз не стае паўтарамільярдавай масе народаў Азіі й Афрыкі, якія знаходзяцца на ўзроўні народаў палітычна й культурна недаразьвітых, а з гледзішча гаспадарскага адсталых.

Незалежна ад гэтага, памяншаць значэньня канфэрэнцыі ў Бандунгу ніяк нельга. Нельга з гледзішча на будучыню. Канфэрэнцыя сьветчыць, што каляровыя народы Азіі й Афрыкі абудзіліся й імкнуцца быць суб'ектам, а не аб'ектам сусьветнай палітыкі. Вынікі канфэрэнцыі вельмі сьціплыя, але плады сяньняшняга севу могуць аказацца ў будучыні вельмі багатымі.

**(-іч)**

**Кузьма Чорны**

# Лявон Бушмар

**(Працяг)**

У гэтай хатняй сумятні, у цясноце пачула яна яшчэ тое, што часьцей за ўсё чула ў несьвядомых успамінах сваіх. Чула ў самыя вострыя моманты. Гэта брала пад сваю ўладу думкі і волю, каб або зрабіць чалавека вельмі моцным і рашучым, або зусім нямоцным, слабым. Усё тады робіцца малым і нязначным перад адным, што займае ў тыя хвіліны чалавека.

Калі яшчэ была дзіцём Аміля, дык з таго часу памятае яна адзін гэтакі момант. Ёй навек застаўся ў памяці і цяпер заўсёды паўстае ва ўяўленьнях гарачы адвячорак, калі было гэта. Яна малая не магла ўседзець дома ўвесь той дзень і назаўтра, пакуль ня сплыла патроху горкасьць з душы.

— Занясі, дачушка, тату хлеба, бо ён ня еў з самага ранку, — сказала была тады маці.

І яна панесла той нішчымны хлеб, сухі, вымучаны з апошняе мукі. А бацька з паўдня ўжо нешта стаяў без шапкі перад ганкам аканома ў двары, выпрошваючы нейкае палёгкі за нейкія даўгі.

— Табе колькі разоў казалі — не таўчыся тут перад вокнамі дарэмна, — сказала пакаёўка, выходзячы на ганак.

Тады бацька заенчыў:

— Унь мне дзіця апошні хлеб з стала прынясло. Няўжо я з раскошы прашу. Няўжо я...

І вось тады адбылося тое самае важнае. Сам аканом высокі і моцны, выскачыў на ганак і схапіў бацьку за шыю, пхаў яго гэтак перад сабою цераз увесь дзядзінец, да самае дарогі, дзе стаялі дваровыя людзі, і некаторыя спачувалі, некаторыя сьмяяліся. Бацька пайшоў, а яна малая бегла за ім, і страшны малюнак бацькавае прыніжанасьці не даваў ёй спакою.

— Заўтра пайду папрашу аканоміхі, — сказаў спакойна бацька, калі адыйшліся яны трохі ад двара.

— Ня йдзі.

Яна закрычала немым голасам. Не магла больш выгаварыць ні воднага слова ад сьлёз і вялікае цяжкасьці.

— Чаму? — сказаў бацька, можа яе ўпрашу, дык якнебудзь абыдзецца добра.

І памаўчаўшы, яшчэ сказаў, сам сабе:

— Яна, кажуць, ніштаватая кабета, ласкавейшая за яго.

— І яшчэ большая крыўда за гэты бацькаў спакой і халодную нявольніцкую разважлівасьць пеканула яе ў сэрца. Бацька-ж гаварыў:

— Давай хлеб, падсілкавацца трохі.

Яны селі на дарозе і Аміля магла толькі сказаць:

— Як ён цябе пхаў цераз увесь двор.

— Што-ж ты зробіш, — адказаў бацька. — Будзе горшая бяда, калі прыдуць ды апошняе забяруць.

І маўчаў. Можа буры кіпелі ў ім на дне душы, але твар яго, грубы, абветраны, быў халадны. І от з таго доўга насіла яна ў сабе страшны роспач: «Можа яму ня зусім моцна балела, як яго ціснулі за шыю, але як гэта ён яго гнуў уніз — пхаў»

Бацька йшоў гэтак у чужых руках праз увесь дзядзінец, той самы бацька, які заўсёды галодны, холодны і спрацованы. Ён пойдзе да эканоміхі, хоць тут зусім ня можна йсьці зноў прасіць — нейкая сіла не дазваляе ісьці зноў прасіць, а вызначае штосьці іншае: пайсьці і ўзяць таго, хто пхаў бацьку і забіць яго, але не адразу, а каб ён мучыўся перад сьмерцю і каб слухаў, як яму будзе яна за скрыўджанага бацьку выгаворваць усю крыўду. Толькі гэта трэба зрабіць, больш нічога ня можна рабіць.

Але нічога гэтага не магла яна тады малая выказаць. Толькі праз колькі ўжо дзён сказала бацьку:

— Тата, набі яго.

Ён зьдзівіўся:

— Каго?

— Аканома.

— Што ты выдумляеш?

І ўсё гэта засталося навек.

Аміля стаяла ўсё ў хаце, ні зь кім не гаворачы.

— Як ты прыйшла ад работы? — запытала Андрэіха. — Хіба Бушмара дома няма?

Аміля ўздрыганулася ад чалавечага слова. Яна ўзяла на рукі дзіцё і вынесла на двор.

— Гуляй, сынок, гуляй сабе.

— Ты пойдзеш? — запытала дзіцё.

— Пайду, сынок.

— Чаму ты пойдзеш?

Яна панясла яго да варот і там паставіла на зямлю.

— Ня йдзі, мама.

— Я прыйду... Бяжы ў хату, сынок.

У полі вецер плыў па засевах, шаптала жыта.

Праз узгорак Аміля выйшла да лесу. На самым узгорку пад ветрам прыпынілася азірнуцца. Высыхала пад нагамі раса. Вецер мяў і трапаў адзежу.

Яна ўзьняла галаву. Штосьці незнаёмае дагэтуль нараджалася з думак пра Бушмара. І, як хмары перад навальніцай, зьбіралася ўсё больш і запаноўвала ў чалавеку. Бушмар стаяў, як жывы, у яе вачох з сунутымі брывамі, нездаволены, упарты...

Першы раз у жыцьці ў яе сьціснуліся губы. Гэта было толькі лёгкае дрыжаньне іх.

Яна адна была на ўзгорку, перад сьцяною лесу. Постаць яе ўзвышалася над аўсамі і жытамі. Вецер абвяваў яе, і галава яе была ўзьнята.

Шпаркаю звычайнаю сваёю хадою яна ўвайшла ў лес.

## XII

Чалавеку цяжка перарабіцца адразу. Можна думаць і гаварыць інача, а сам чалавек доўга будзе ранейшым. Так як ляцяць кажны год, абы толькі замакрэе веснавы сьнег, гусі над Бушмаравай сялібай, так, як адлятаюць яны над гэтымі-ж лясамі назад, абы толькі пацямнее ад старасьці на іржышчы белае павуціньне, — гэтак сваімі дарогамі будзе хадзіць чалавек, пакуль увесь узыйдзе на дарогі іншыя.

У той дзень, калі вярнулася Аміля ў Бушмараў дом, яна ажыла была дзеля іншае свае дзейнасьці, жывучы на сьвеце. Яна, як Бушмар прыйшоў толькі ў хату, пад поўдзень пачала

# Альбэрт Айнштэйн — піянэр атамнай веды

**18 красавіка сёлета памёр вучоны сусьветнай славы Альбэрт Айнштэйн, якому сучасная фізыка заўдзячвае шмат важных вынаходаў. Каб пазнаёміць нашых чытачоў з жыцьцём і творчасьцю гэтага вялікага вучонага, ніжэй перадрукоўваем аб ім інфармацыйны артыкул зь лёндынскага «Дзеньніка Польскага» (Но. 97 за 25. 4. 1955).**

*

Тэорыя рэлятыўнасьці, творцом якой быў памерлы 18 красавіка вялікі матэматык і філёзаф др. Альбэрт Айнштэйн, хаця вызнаная вучонымі аснаўным адкрыцьцём сучаснай веды, ня была зразумелая шырокім масам. Спробы папулярызацыі гэтай тэорыі ў многіх кнігах чамусьці не дасягвалі жаданага выніку і навука Айнштэйна астаецца й надалей чымсьці, што ўзапраўды ёсьць зразумелае толькі спэцыялістым і чаго нельга зразумець безь вялікага навуковага прыгатаваньня, асабліва ў галіне вышэйшай матэматыкі.

Толькі навуковыя досьледы, мэтай якіх было даказаць праўдзівасьць тэорыі Айнштэйна, прынесьлі даступныя грамадзтву прыклады ягоных адкрыцьцяў. Гэтак падчас зацьменьня сонца ў 1919 г., а так-жа ў 1954 г. вучоныя дасьледвалі тэзу Айнштэйна, што сьвятло ў міжзорным прасторы, праходзячы блізка вялікай масы, не ляціць па простай лініі, але закрыўляецца ў выніку прыцягальнай сілы гэтае масы. Досьледы гэтыя сьцьвердзілі, што ўзапраўды прамень сьвятла, што бяжыць ад зоркі сонца, зьгінаецца. Тэарэтычныя прадбачваньні Айнштэйна пацьвердзіліся.

### РАЎНАНЬНЕ АЙНШТЭЙНА

Другім прыкладам, што яшчэ больш пацьвярджае праўдзівасьць тэорыі Айнштэйна, былі атамныя вынаходніцтвы. Айнштэйн, будучы маладым чалавекам, у 1925 годзе сфармуляваў у сваей тэорыі рэлятыўнасьці права, што маса зьяўляецца толькі формай энэргіі і наадварот, і што дробныя колькасьці масы могуць быць ператвораныя ў вялікую колькасьць энэргіі. Слаўнае раўнаньне Айнштэйна, сьцьвярджаючае, што пры разьбіцьцю атаму энэргія раўняецца масе, памножанай праз шыбкасьць сьвятла (300 000 клм на сэкунду) ў квадраце — выясьняе, чаму пры разьбіцьцю або злучэньні атамных ёдраў атрымліваецца вялікі выбух. Калі ядро уранавага атаму разьбіваецца або таксама калі ёдры лёгкага вадароду злучаюцца, атрымліваецца страта масы, а энэргія, якая пры гэтым вызваляецца, раўняецца множыву масы праз квадрат шыбкасьці сьвятла, што дае астранамічныя вялічыні, якія выясьняюць вялізарную зьнішчальную сілу вадароднай або атамнай бомбы. Раўнаньне Айнштэйна з тэорыі рэлятыўнасьці было поўнасьцю пацьверджанае пазьнейшымі атамнымі досьледамі і сталася аснаўным прынцыпам атамнай веды.

Айнштэйн, які паходзіў з жыдоўскай сям'і, у выніку расавых перасьледваньняў гітлераўцаў, быў змушаны пакінуць катэдру на ўнівэрсытэце ў Бэрліне і выехаў перад другой сусьветнай вайной у Задзіночаныя Штаты. Там стаўся піянэрам атамнай веды, аддаючы ўсе свае дасьветчаньні нямногай даверанай групе вучоных у Задзіночаных Штатах, што дасьледвалі сакрэт атамнага ядра.

### ПЕРАСЬЦЕРАГАЎ РУЗВЭЛЬТА

Калі выбухла другая сусьветная вайна, Айнштэйн і ягоныя сябры здавалі сабе справу зь небясьпекі, якую хавае ў сабе новае адкрыцьцё расшчапленьня атамаў, якое вызваляе вялізазарныя колькасьці зьнішчальнай энэргіі. Баяліся яны, што нямецкія вучоныя, якія ведалі тайніцу расшчапленьня атаму, аддадуць сваю веду на ўслугі Гітлера і што Гітлер будзе мець у сваіх руках першым гэтае магутнае аружжа зьнішчэньня, а тады лёс вольнага сьвету можа быць перасуджаны.

Айнштэйн піша ліст да прэзыдэнта Рузвэльта, прадстаўляючы яму гэтую небясьпеку. Ягоная апінія бясспрэчна заважыла на шалі пастановы Рузвэльта, які вызначае мільярдавыя крэдыты на будову атамных заводаў і прадукцыю атамнае бомбы. Пад канец другой сусьветнай вайны звальваюцца на японскія гарады Гірошыма й Нагасакі дзьве першыя атамныя бомбы.

Пасьля абвешчаньня сваей тэорыі рэлятыўнасьці Айнштэйн працаваў надалей над новай тэорыяй, якая датычыла электрамагнэтычных сілаў. Пасьвяціў ён гэтай тэорыі 25 год свайго жыцьця і ў 1949 г. было абвешчана ў Задзіночаных Штатах, што Айнштэйн мае намер апублікаваць новую тэорыю гравітацыі. У сувязі з гэтым паявіліся навет фотографіі матэматычных раўнаньняў,, напісаных рукой Айнштэйна, якія аставаліся ў сувязі з гэтай тэорыяй. Сам Айнштэйн аднак гаварыў, што не спадзяецца, каб за ягонага жыцьця значэньне гэтае тэорыі было зразуметае навет вучонымі і што трэба пачакаць што найменей 20 год, каб навуковы сьвет вызнаў ягоную навуку. Тымчасам вучоныя ані не адкінулі гэтай новай тэорыі, ані яе ня прынялі.

### «ЭЛЕКТРЫЧНАЕ ВОКА»

Хаця імя Айнштэйна пяройдзе ў гісторыю як вялікага вучонага, адкрыцьці якога можна параўняць з адкрыцьцямі гэніяльнага Ньютона, аднак зрабіў ён шмат вынаходаў, якія маюць прытарнаваньне ў практычным жыцьці. Да такіх вынаходаў належыць «электрычнае вока» да фотоапарату для мераньня часу, патрэбнага для правільнага насьвятленьня здымкаў. Вынаход гэты з 1936 г. ёсьць сяньня агульна ўжываны фотографамі.

Айнштэйн адступіў таксама вайсковым амэрыканскім уладам рад вынаходаў для вайсковых мэтаў, а між іншымі прэцызыйны апарат да прыцэлу для гарматаў зь вялікім засягам. Працаваў ён таксама над скафандрам, каторы можа даць магчымасьць заныраць на вялікую глыбіню.

### ЧАЦЬВЕРТЫ ВЫМЕР

Айнштэйн у маладасьці ў пачаткавай і сярэдняй школе не даваў задаткаў на будучую навуковую славу. Вучыўся мерна, а прафэсары не варажылі яму пасьпеху ў будучай прафэсыянальнай працы. Першыя гады маладасьці ня былі таксама памысныя. Пасьля сканчэньня вышэйшых студыяў атрымаў ён у Швайцарыі дрэнна платнае становішча працаўніка ў патэнтавым урадзе і ледзьве зьвязваў канцы з канцамі. Бяда часта заглядала ў дом Айнштэйна і ягонае жонкі. Айнштэйн аднак пасьля заканчэньня нуднай працы ў патэнтавым урадзе, вечарамі працуе і, маючы 26 год, абвяшчае першыя асновы сваей тэорыі рэлятыўнасьці, уводзячы паняцьце чацьвёртага вымеру, які дадае да трохвымернага прастору (даўжыня, вышыня, шырыня) паняцьце чацьвёртага вымеру — часу. Тэорыя чацьвёртага вымеру: прастор і час зьдзіўляе вучоных сваёй прасьцінёй, а адначасна дае новыя філязафічныя й матэматычныя паняцьці аб сусьвеце. Малады вучоны хутка здабывае славу, атрымлівае прапанову ўнівэрсытэцкай катэдры і ад гэтага часу пачынаецца ягоная навуковая кар'ера. Пруская акадэмія навук ахвяроўвае Айнштэйну ўсялякія палёгкі, каб толькі асеўся ў Бэрліне. Немцы ствараюць для Айнштэйна спэцыяльны інстытут. Калі быў змушаны пакінуць Нямеччыну, рад унівэрсытэтаў заграніцай ахвяраваў яму гасьціну. Айнштэйн выбірае Амэрыку. Вялікабрытанія абдарыла Айнштэйна тытуламі ганаровага доктара ўнівэрсытэтаў у Оксфорд, Кэмбрыдж, Лёндане й Манчэстары.

### РАСПУТАНЫЯ СІЛЫ ПРЫРОДЫ

У вапошніх гадох свайго жыцьця Айнштэйн заўважыў, што адкрыцьцё расшчапляньня атамаў і атамнай бомбы, да чаго гэтак шмат спрычыніўся, пачынаюць заграavailable чалавецтву сьмяротнай небясьпекай. Дзеля гэтага часта падносіў голас, асьцярагаючы перад атамнай небясьпекай, калі вялізарныя сілы прыроды, вызваляныя атамнымі выбухамі, ня будуць кантраляваныя людзьмі для іхнага дабра, а не для зьніщчэньня.

Існуе ўсходняя легенда, што неасьцярожны чалавек адкаркаваў бутэльку, у якой знаходзіўся злы й зьнішчальны дух. Відзячы магутнасьць гэтага духа, чалавек, які лёгкадумна вызваліў сілы зьнішчэньня, бядуе над тым, як гэтага духа назад загнаць у бутэльку.

Гэтую легенду можна прытарнаваць да апошніх год жыцьця Альбэрта Айнштэйна.

**С. Т.**

# Аб памылках там і тут

«Той не памыляецца, хто нічога ня робіць», «На памылках мы вучымся» — так у сваіх прыказках народ выказаў свае думкі аб памылках. У жыцьці непагрэшных людзей няма. Кажны з нас рабіў і робіць памылкі вялікія і малыя.

Жывучы за межамі сваей Бацькаўшчыны, мы назіраем, зь якім зьдзіўляючым цярпеньнем людзі ўмеюць пераносіць і прабачаць памылкі. У іх навет і думкі ня зьявіцца аб тым, што вы не памыліліся, а зрабілі гэта знарок. Калі-ж вашы памылкі будуць паўтарацца зачаста, яны аднясуць гэта за лік недастатковае вашае кваліфікацыі і прыставяць да вас чалавека, які дапаможа вам больш дакладна вывучыць тую ці другую рэч, каб гэтых памылак ня было.

Зусім іншае разуменьне аб памылках на той бок зялезнае заслоны. Там памыляцца недазволена. Кажны ваш прамах там лічыцца як шкодніцтва і цягне за сабою кару, у лепшым выпадку доўгатэрміновую турму, а то і страту жыцьця.

Вельмі часта могуць прыпісаць вам чужую віну, за якую вы павінны несьці суровую кару. У такіх выпадках вам непатрэбна навет і памылак рабіць, трэба толькі мець няшчасьце папасьці ў няміласьць НКВД, а чаму гэта «выбар» падае на вас — аб гэтым ня вам судзіць. Гэта справа чыноўнікаў дзяржаўнае бясьпекі. Яны зьяўляюцца вашымі «апякунамі» і каральнікамі.

Вось некалькі прыкладаў:

Палескі абласны вэтэрынарны лекар быў прысуджаны да кары сьмерці нібыта за шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы. У справаздачы аб судовым працэсе аб ім было сказана літаральна даслоўна: «Ведаючы, што ў Тураўскім раёне пачалася эпідэмія чумы — не сьпяшаўся з выездам». Вось і ўся яго «віна». Гэты чалавек пайшоў на сьмерць, а Тураўскі раённы лекар і асталыя сельскія вэтэрынарныя працаўнікі ня толькі ня былі арыштаваныя, але навет ня выклікаліся на допыт. Кажны ў праве запытаць: пры чым тут абласны лекар?

У Бягомельскім раёне Менскае вобласьці ў вадным з нумароў раённае газэты ў прозьвішча «мудрого отца» Сталіна з прычыны тэхнічнага недагляду, замест другое літары «т» апынулася «р»; і гэтага было досыць, каб расстраляць амаль усіх працаўнікоў газэты ад рэдактара да экспэдытара.

А вось яшчэ выпадак: Як усім вядома, пастановы па важнейшых пытаньнях падпісваліся сакратаром ЦК партыі і старшынёй Саўнаркому — савету міністраў. На Беларусі адным часам быў сакратаром ЦК Воўкаў, а старшынёю Саўнаркому — Ваўковіч. Да спалучэньня гэтых прозьвішчаў папросту ўсе былі прывыклі. Раптам Ваўковіча здымаюць з працы, як ворага народу, і прызначаюць замест яго Кавалёва. Адна з дыктарак Менскае радыёстанцыі, маладая дзяўчына, перадаючы якуюсь пастанову, замест «Воўкаў, Кавалёў», па старой прывычцы, аб'явіла «Воўкаў, Ваўковіч». Гэтага было дастаткова, каб яе адразу-ж тут арыштаваць і пазьней расстраляць, а бацькоў адправіць на выгнаньне ў Калыму.

Былі выпадкі амаль анэкдатычнага характару.

Адным з заснавальнікаў і першым рэктарам Менскага Унівэрсытэту быў прафэсар Пічэта, які атрымаў асьвету дзесь за мяжой — здаецца ў Ангельшчыне. Прыкладна ў 1930 г. яго, раба Божага, разам зь іншымі прафэсарамі абвінавацілі ў беларускім нацдэмакратызьме (хаця ён і ня быў Беларусам) і выслалі на Калыму дабываць золата. Раптам у Маскву прыяжджае дэлегацыя вучоных тэй краіны, дзе вучыўся калісь Пічэта. На прыёме ў Сталіна адзін зь іх зьвярнуўся да «бацькі народаў» з просьбаю спаткацца зь сябрам па ўнівэрсытэту, Пічэтам. Сталін даручыў свайму сакратару выклікаць Пічэту. Даведаўшыся, што апошні ў ссылцы, Сталін сказаў яго сябру, што быццам Пічэта цяпер знаходзіцца ў навуковай камандыроўцы і яго выклічуць у Маскву да таго моманту, калі яго замежны сябра будзе варочацца зь Ленінграду, куды ён павінен быў паехаць разам з дэлегацыяй пасьля прыёму ў Сталіна.

У той самы дзень на Калыму, дзе знаходзіўся Пічэта, выляцеў лятак, які і даставіў прафэсара ў Маскву. Там яго пагалілі, памылі, падхарчавалі, апранулі і пазьней зьвялі зь сябрам, сурова наказаўшы пра выгнаньне не памінаць.

Пасьля гэтага выпадку Пічэта на Калыму не вярнуўся. Ён быў абраны сябрам-карэспандэнтам Акадэміі Навук СССР і ўзначаліў адзін зь яе інстытутаў.

Калі ён памёр у 1946 г., у ганаровай варце каля яго труны стаялі прэзыдэнт Акадэміі Навук і заслужаныя акадэмікі і быў пахаваны ён на дзяржаўны кошт з усімі належнымі ганаровасьцямі.

Вось што значыць у жыцьці просты выпадак.

**В. Верасень**

# *Да Глыбокапаважаных Чытачоў*

Працуючы над кнігамі «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман», «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанскае змаганьне на Беларусі» і «Мартыралёг бальшавіцкіх ахвяраў у БССР», я вычуў больш канечную чым заўсёды, неабходнасьць у сталай лучнасьці з чытачамі.

Ветліва прашу дасылаць мне свае заўвагі і пажаданьні наконт майго ўжо надрукаванага, пазнаёміць мяне з народнымі паданьнямі, песьнямі, прыказкамі і г. д., што датычаць таго ці іншага нашага геаграфічнага назову (горад, мястэчка, вёска, рака, возера, пушча, гарадзішча, курган і г. д.) і магчыма мне невядомыя. У тым выпадку, калі штосьці з дасланага ня прыдасца да мае кнігі, дык я перадам яго, як фальклёр, у нашую адпаведную навуковую інстытуцыю. Таксама вельмі прашу пісаць мне аб антыбальшавіцкіх паўстаньнях і паасобных партызанах, бо ў тагачаснай літаратуры і пэрыядычных выданьнях яны, па зразумелых прычынах, бадай не знайшлі адбітку. Аднак невядомае дагэтуль мае стацца вядомым цяпер — у гэтым палягае прызначэньне палітычнага эмігранта.

Нарэшце лічу сваім сьвятым абавязкам скончыць больш чым дзесяць год таму мной распачаты памін-даведнік Беларусаў расстраляных, закатаваных, сасланых бальшавікамі. Мяне цікавяць пры гэтым ня толькі нашыя нацыянальныя або дзяржаўныя, палітычныя ці грамадзкія дзеячы, але ўвогуле ўсе тыя суродзічы, што сталіся ахвярай расейскага бальшавізму. Бяз сумлеву кажны эмігрант ведае паасобных нашых сялянаў, работнікаў, духаўнікоў, вайскоўцаў, настаўнікаў, аграномаў, інжынераў, студэнтаў і ці мала іншых, што загінулі, або пакутуюць ад подлае рукі чырвоных наезьнікаў, і падасьць мне аб іх кароткія біяграфічныя дадзеныя, а ў крайнім выпадку навет адное імя, каб у выснаве, папершае, захаваць для гісторыі імёны нашых змагароў, а, падругое, мець напагатове наш абвінавальны акт маскоўскім катам. Прыгаданьне імёнаў гэтых змагароў, акрамя свайго супрацьбальшавіцкага значаньня, раўназначна таксама вянку пакладзенаму тым, хто іх прыгадаў, на іхнія бязыменныя магілы.

Мой адрас:

Jury Stukalich
8 Mageira Street
South River, N. J.
USA

Спадзяюся, што глыбокапаважаныя чытачы адгукнуцца на вялікую просьбу свайго пісьменьніка і загадзя выказваю шчырую падзяку.

З узвышэнскім і шыпшынаўскім прывітаньнем

**Юрка Віцьбіч**

10. 4. 55 г., ЗША

---

выгаворваць яму ўсё, што сабралася ў яе; гаварыла яму і пра сябе і пра яго.

— ... ты пануры, ты цяжкі, і з табою цяжка. Але ты можаш зьпначыцца. Толькі скажы мне раз і назаўсёды, што я для цябе і ці патрэбна я табе. Калі ты зьнявідзеў мяне, дык годзе папрокамі ўсякімі мучыць мяне, а выгані мяне з хаты, каб я ня была тут больш. Тады я ведаць буду, што рабіць, шукаць сабе, дзе дзецца і за што ўзяцца ... Калі-ж ты сам ня ведаеш, што я для цябе, дык слухай — я застануся з табою ... Нам ня кепска будзе жыць ... У нас будзе дзіцё, тваё, дзіцё ... А маё дзіцё цяжкім для цябе ня будзе. Я зраблю тут усё ў нашым доме так, што нічога лішняга і непатрэбнага для нас ня будзе, усё будзе добра і табе і мне. Толькі ня будзь воўкам для мяне. А калі інакшым быць ня можаш, дык скажы мне, не маўчы, на што я табе?.. Ты скажы ... ты не маўчы больш, але скажы тое, што трэба. Без папрокаў скажы ... Тады лепш будзе ўсё ...

Яна гаварыла доўга. Ён спачатку маўчаў з новым прасьветленым нейкім тварам, як ад якое трывожнае і важнае навіны, пасьля якое прыкра яму стала. Але-ж ён даслухаць хацеў да канца. Усё маўчаў, ніводнага разу ня глянуў на яе.

— Чаго ты? — сказаў ён раптам.

— Што?

— Што з табою зрабілася? Дзе ты была?

Яна глядзела на яго.

— Дзе ты была? Чаму ты гэтакая?

— Дома была.

— Дзе дома?

— У Андрэя была. Сына свайго глядзець хадзіла. Сын у мяне ёсьць, ведаеш?.. Той самы, пра якога ты ўчора дапытваўся, ад каго ён. Той самы, мой сын. Ты чуеш пра майго сына?!

Ён сьціснуў зубы, але на гэта змоўчаў. Толькі глянуў на яе. Раптам зьдзіўленьне нейкае засьвяцілася ў яго вачох.

— Дык от я цябе пытаю, ты павінен сказаць мне.

— Я ня ведаю, што ты хочаш, каб я табе сказаў.

— Я кагадзе гаварыла табе што.

— Я табе нічога не рабіў кепскага.

— А вечарам ўчора, ты забыўся?!

— Я цябе ня біў.

— А што ты гаварыў мне. Ты памятаеш, што ты гаварыў мне?

— Я табе гаварыў праўду.

— Праўду. Гэта твая праўда?

Ён зноў узьняў на яе вочы. Ён ніколі ня бачыў яшчэ яе гэтакаю. Ні адна жанчына ніколі не гаварыла яшчэ зь ім гэтак. Ён маўчаў, зьдзіўлены.

— Што-ж ты маўчыш?

— Што табе гаварыць?

— Ты лепей сам ведаеш.

Пасьля доўгае маўчанкі свае яна пачула яго пануры голас:

— Тое прайшло.

Ён пачаў заікацца.

— Што прайшло?

— Што было ўчора вечарам.

Больш ён маўчаў. Яна адыйшлася ў чыстую хату, старалася разагнаць сваю узбуджанасьць, сваё утрапеньне. Ён доўга сядзеў, усьпёршыся локцямі на стол, пакуль яна ня ўвайшла. Цяпер спакайнейшаю здавалася, штучна навет усьміхнулася, калі падыйшла да стала:

— Усё прайшло, што было?

і памаўчаўшы:

— Ты праўду кажаш мне?

Села зь ім поплеч. Зноў штучна — ня было яшчэ прычыны для шчырасьці — хмурна ўсьміхнулася і сама-ж адразу прагнала з твару гэтую непатрэбную ўсьмешку. Так сядзелі яны і яна каля яго рабілася ўжо тэй самай ранейшай Аміляй.

### XIII

Людзі жылі тут павольным жыцьцём, спрадвечным, ціхім ... Людзкое жыцьцё было як жыцьцё гэтага поля навокал і гэтых лясоў. Кажны год зямля мяняла твар свой. Але праз год яна была тэй жа самай. І гэта трымала людзей пад нейкаю ўладай.

Кажную восень над гэтым полем і лясамі адляталі жоравы й гусі. Тады людзі глядзелі на гэты свой радасны сум, думалі пра свае няхітрыя рэчы, рабіліся як дзеці. Падоўгу стаялі і ўглядаліся ў гэтых адвечных падарожнікаў, якія ведаюць толькі сваю дарогу. Але дарога гэтая здавалася людзям нязвычайнаю і вольнаю. Можа людзі зайздросьцілі гэтай птушынай волі, можа яны чулі ў гэты час сваё адвечнае імкненьне, што жыве ў іх, у глыбіні пад нявольніцкімі путамі гаспадарскае клапатлівасьці.

Так ішло тут жыцьцё зямлі і людзей на ёй.

Калі Бушмар служыў яшчэ ў войску, ён нудзеў па гэтым жыцьці. Тут быў дзеля яго цэнтр сьвету. Гэта ён тады чуў больш, як цяпер. Цяпер толькі жыў, больш можа як хто тут заклапочаны ўпартым сваім змаганьнем зь зямлёй. Ён папробваў быў выкарчоўваць падлесную неўрадлівую дагэтуль граду. Але ня даў рады. Так у яго гэта засталося толькі ў думках — от нешта такое прыйдзе, пара гэтакая, калі нейк гэта ў яго зробіцца, ён сам пра гэта пастараецца, тады будзе нешта іншае ... Такое чаканьне ўсё было ў чалавека, пакуль ён ладзіў, і ладзіў удала, што пакінуў яму бацька.

Гэтакае-ж чаканьне было і ўва ўсіх. Бушмаравы вясковыя суседзі спрадвеку мучыліся на сваёй зямлі, яна была цяжкаю, але яе было мала. Людзі думалі, каб яе было больш, яна была-б лягчэйшаю.

Зь вялікаю радасьцю людзі пачалі рэзаць яе, адрэзваць сабе дзе толькі льга было. Суседнія ад вёскі хутары адразу паменшыліся. Вяскоўцы ўрэзалі сабе зямлі і з княжацкага маёнтку. Зямлі хапіла, яе стала даволі, але яна стала яшчэ цяжэйшаю. І яе яшчэ ўсё было мала. Трэба было даваць іншую раду зямлі.

У гэты-ж вось час Бушмар і ўзьнявідзеў Андрэя. Тады, калі Бушмар быў яшчэ ў войску, Андрэй першы падаў думку пра тое, за што стары Вінцэнты назваў быў яго ў Бушмара гадам.

Людзі ня любілі Бушмара, і ён ня любіў людзей. Ён быў зьвераваты з натуры свае і, яшчэ з бацькам жывучы, прывык адмяжоўвацца заўсёды ад усіх.

Ужо ў тую ноч, калі варочаўся Бушмар дадому з войска, ён, ступіўшы на сваю зямлю, адчуў сумную трывогу — тады ўжо за лесам бялелі новыя межавыя слупы. Але пасьля гэта

# Маніфэстацыя у чэсьць царквы маучаньня

У нядзелю, 27-га сакавіка, раніцою каля 120 тысяч мадрыдзкіх вернікаў ды прадстаўнікоў усіх сацыяльных пластоў грамадзтва сабраліся ў цэнтры гішпанскай сталіцы, каб памаліцца за перасьледваную Царкву і аддаць належную чэсьць паняволеным народам, каб гэтым яшчэ раз заманіфэставаць перад усім сьветам сваю шчырую да іх сымпатыю. У гэтай вялізарнай маніфэстацыі-працэсіі, якая праз галоўныя вуліцы гораду накіравалася ў парк «del Retiro», дзе была адпраўлена ўрачыстая Багаслужба, прыймалі таксама ўдзел і прадстаўнікі ад амаль усіх паняволеных народаў, у тым ліку й Беларусы. Яны несьлі панкарты з назовамі сваіх краін. Біскуп Мадрыду-Алькаля Dr. Lahiguera, зьвярнуўся да вернікаў з гарачым заклікам, каб не забываліся аб сваіх перасьледаваных братох у веры, пасьля чаго з грудзей шматтысячнае масы вырваўся магутны спантанічны кліч: «Жыве вольная Беларусь!», «Жыве вольная Украіна!» і г. д.

Гішпанская прэса й радыё прысьвяцілі шмат месца гэтай маніфэстацыі. Падобныя дэманстрацыі адбыліся ў цэлай Гішпаніі.

### БЕЛАРУС ДЭЛЕГАТАМ АД ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

27-га сакавіка г. г. Каталіцкая Акцыя Дыяцэзыі Мурцыя (сталіца правінцыі таго самага назову паўдзённа-ўсходняй Гішпаніі) арганізавала ўрачысты акт прысьвечаны «Царкве Маўчаньня», на які быў запрошаны, як дэлегат ад паняволеных народаў, беларускі студэнт сп. Я. Сурвіла. Весткі аб гэтай урачыстасьці падаем паводля газэты «La Verdad», а таксама «Linea» з дня 29. 3. 1955.

Вялікая заля была перапоўнена публікай, што складалася з прадстаўнікоў ад розных арганізацыяў, прафэсараў і студэнтаў мясцовага ўнівэрсытэту ды карэспандэнтаў прэсы й радыя. Пасьля адкрыцьця акту сп. Сурвіла прачытаў зьмястоўны рэфэрат на тэму «Рэлігійны перасьлед у паняволеных краінах і рэлігійная палітыка Крамля», пасьля чаго пачалася ажыўленая дыскусія адносна трагічнай сытуацыі ў краінах за зялезнай заслонай.

Пасьля акту наш суродзіч меў інтэрв'ю з галоўным рэдактарам газэты «La Verdad», сп. José Ballester Nicolas, якое было апублікаванае дня 29-га сакавіка пад загалоўкам «Беларус у Мурцыі» разам із здымкам нашага студэнта. Інтэрв'ю інфармуе чытачоў пра Беларусь, змаганьне беларускага народу за сваю незалежнасьць, пра беларускую эміграцыю ды ейнае жыцьцё й дзейнасьць і пра беларускіх студэнтаў.

Пасьля абеду сп. Сурвіла меў сустрэчу із студэнтамі ўнівэрсытэту Мурцыі, дзе яшчэ раз была паднятая ажыўленая дыскусія, і дзе нашаму суродзічу прышлося адказваць на дзесяткі пытаньняў зацікаўленай моладзі.

А ўражаньне нашага студэнта, якое ён вывез з Мурцыі? Найлепшым адказам будуць ягоныя собскія словы: «Уражаньні зь візыты гэтага прыгожага гішпанскага гораду застануцца назаўсёды ў маёй памяці. Мне запраўды выдавалася, што мяне сустрэлі родныя браты пасьля шматгадовае ростані».

Гішпанскі народ, які сам пацярпеў шмат ад камуністычнай тыраніі, магчыма найлепш нас разумее й найбольш нам сымпатызуе. А наш жывы кантакт з гэтым гасьцінным народам напэўна будзе мець свае пазытыўныя вынікі.

**В. Сенкевіч**

# „Дэргі“ - зборнік на турэцкай мове Но. 1

**СТУДЗЕНЬ—САКАВІК, 1955 г., 160 бач.**

У сакавіку г. г. Інстытут для вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР выдаў першы нумар «Дэргі» — зборніка на турэцкай мове.

«Дэргі» рэдагуецца сябрам Навуковай Рады Інстытуту — др. Ідыгэ Кырымалам (адказны рэдактар) і азэрбайджанскім публіцыстым — Мэхмэт Эміржданам (літаратурны рэдактар).

Першы нумар «Дэргі» мае ў сабе ўступнае слова, 12 артыкулаў, 5 рэцэнзіяў і нэкралёг, прысьвечаны нядаўна памерламу палітычнаму азэрбайджанскаму дзеячу Мэхмэт Эмін Рэсюльзадэ.

З уступнага слова відаць, што гэты часапіс ставіць перад сабой наступныя мэты:

1) Аб'ектыўнае й навуковае асьвятленьне й інфармаваньне шырокіх колаў чытачоў Блізкага Усходу аб запраўдным палажэньні Савецкага Саюзу і выніках дзейнасьці Інстытуту для вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР.

2) Усебаковае навуковае асьвятленьне малавядомай і малавывучанай праблемы савецкага Ўсходу, які ахоплівае вялізарныя прасторы ад Крыму й Каўказу да Якутыі і ад Ідэль-Уралу (Волга-Урал) да Паміру.

3) Прыцягненьне да супрацоўніцтва з вышэйназваным Інстытутам навукоўцаў шматлікай эміграцыі цюркскіх народаў Савецкага Саюзу для аб'ектыўнага навуковага вывучаньня СССР і савецкага Ўсходу.

Артыкулы першага нумару «Дэргі» асьвятляюць наступныя пытаньні:

**Савецкі Туркестан** (Уступны артыкул праф. Тогана аб апошніх этапах савецкай палітыкі ў Туркестане; артыкул праф. А. Улуктука аб другім лінгвістычным кангрэсе ў Туркменіі; артыкул А. Акку аб транспартным будаўніцтве ў Туркестане й Заўральлі; артыкул Мурата Таджмурата аб крызысе жывёлагадоўлі ў Туркестане, і артыкул С. Кабыша аб няўдачах савецкага баваўнаводзтва ў Туркестане й на Каўказе).

**Азэрбайджан** (Артыкул Мірзы Балы аб савецкай палітыцы ў вадносінах Паўдзённага (Пэрсыдзкага) Азэрбайджану).

**Манголія** (Артыкул праф. Поппэ аб савецкай палітыцы ў Манголіі)

**Палажэньне музульманскай рэлігіі ў СССР** (Артыкул др. Э. Кырымала аб палажэньні музульманскай рэлігіі ў Крыме і артыкул праф. Т. Дзяўлетчына аб палажэньні музульманскай рэлігіі на Ідэль-Урале).

**Украіна** (Артыкул праф. В. Дуброўскага аб зьнішчэньні бальшавікамі ўкраінскае ўсходаведы).

**Вайсковая справа ў СССР** (Артыкул Н. Галая аб уплывах савецкай сацыяльнай дактрыны на сучасную вайсковую справу).

**Пэдагогіка ў СССР** (Артыкул Я. Кавала аб асаблівасьцях бягучага савецкага школьнага году).

У гэтым-жа нумары зьмешчаны рэцэнзіі на наступную літаратуру:

— Праца др. Эдыгэ Кырымала «Der nationale Kampf der Krimtürken» (рэц. др. А. Сойсал);

— «Успаміны» фэльдмаршала Маннэргайма (рэц. Н. Галай);

— Праца праф. М. Мільлера «Савецкая археалёгія» (рэц. Міндзія Лашаўры);

— Артыкул А. Буазані «Советское медрессе Мир — и — Араб в Бухаре» (рэц. праф. др. Г. ф. Штакэльбэрг);

— Часапіс «Азэрбайджан», які выдаецца ў Турцыі (рэц. М. Эліф).

«Дэргі» зьяўляецца першым крокам Інстытуту ў справе азнаямленьня чытачоў Блізкага Усходу з запраўдным палажэньнем у СССР і вынікамі сваіх працаў.

Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» вітае гэтую ініцыятыву і жадае часапісу «Дэргі» й ягоным супрацоўнікам посьпеху й плённай дзейнасьці.

# Залатое яечка

**(Фэльетон із «Зьвязды» за 10. 4. 55)**

Веснавы ранак. На прасторным двары Міхала Пыжа вялікае ажыўленьне: кудахчуць куры, гагочуць гусі, на ўсе лады цягнуць свае мэлёдыі галасістыя пеўні.

Руплівая гаспадыня яшчэ на золку частуе курак дробым ячмяньком, корміць гусак цестам і вітамінная мякінай на хаду прыкідвае, колькі і якіх квахтух пасадзіць на яйкі.

Міхал Пыж захоплены птушкагадоўчым талентам жонкі. Выйшаўшы ўранку на ганак і разьмяўшы пасьля ночы шырокія плечы, ён любуецца сваім птушыным царствам.

— А што каб нам яшчэ індычкоў дастаць? — раіцца ён з жонкай. — Таварная гэта штука, мяса — самае адменнае.

Любіць Міхал паласавацца й добрай яечняй. І таму нямала ўвагі аддае ён уласнай птушкагадоўлі, вырошчваньню добрых яйканосных курэй.Увесну, калі выводзіцца маладняк, увесь двор абуджаецца разнагалоснымі гукамі хатняй птушкі. Натапырыўшы пер'е, злуюцца квахтухі і склікаюць да сябе жоўценькіх пісклянат. Гагочуць няўрымсьлівыя гусі й качкі. Яны шукаюць вады й папасу, паўзуць на грамадзкі выган, лезуць на грады.

— Во як разбагацелі! — радуецца ў такі час гаспадар. — За гусямі й качкамі й па вуліцы не прайсьці.

Шумна ўвесну ў вабжытым двары старшыні ананіцкага калгасу імя Жданава тав. Пыжа. Вярнуўшыся пад вечар дадому, ён сьпяшаецца даведацца, што за куранят выседзела неспакойная квахтуха, колькі яек зьнесьлі белыя сакатухі.

— А наконт індычкоў ты ня турбуйся, — суцяшае старшыня жонку. — Ня возьмем у суседзяў — дастану зь інкубатара. Люблю я гэтую птушачку...

Пачулі неяк калгасьнікі сельгасарцелі імя Кірава, што іх суседзі захоплены птушкагадоўляй. І вырашылі яны пад'ехаць да іх, паглядзець на фэрму, пацікавіцца, што даюць гаспадарцы куры й гусі. Прыехалі ў Ананічы й просяць паказаць калгасныя куратнікі.

— Можа зь пяток белых пеўнікаў дасьце? — зьвярнуўся пажылы калгасьнік да загадчыка фэрмы. — Ці добрых яек пад квахтуху пазычыце?

Не хацелася загадчыку фэрмы самому займацца гасьцямі.

— Мар'я! Пакажы гасьцям куратнік, — загадаў ён птушніцы. — А я тым часам пад'еду да фуражыра...

За вёскай Ананічы стаяў заімшэлы хляўчук.

— Вось наша птушыная фэрма! — з крыўдай сказала Мар'я Шкатула.

— А дзе-ж вашы куры? — у вадзін голас запыталіся госьці.

— Вы асабліва ня зьдзіўляйцеся. Тут ёсьць і куркі і пеўнікі. Гэта яны на зіму схуднелі так. Вядома, маладнячок.

— І вы хочаце, каб яны несьлі яйкі?

— Нічога! Мы за яйкі бульбай разьлічваемся, — умяшаўся ў гутарку загадчык фэрмы Васіль Смаляк, які толькі што пад'ехаў на кані.

Госьці паціскалі плячыма.

— А хто-ж гэта раззваніў па раёне, што ў ананіцкіх калгасьнікаў больш за 20 тысяч галоў птушкі?

— І ёсьць, гадуюць людзі... Сам бухгальтар неяк падлічваў для цікавасьці. У ваднаго толькі майго суседа да пяцідзесяці галоў птушкі, а думаеце, у старшыні іх менш?

Адказны за калгасную птушкагадоўлю Васіль Смаляк хацеў яшчэ нешта даказваць, але гасьцям і без таго было відаць, да чаго тут зьвялі важную галіну грамадзкае гаспадаркі.

І запраўды. Чым маглі пахваліцца ананіцкія калгасьнікі перад сваімі суседзямі? Можа тым, што летась зь дзьвёх тысяч куранят, узятых зь інкубатара, засталося да восені ня больш за поўтараста. Можа тым, што куры «зьелі» за год 60 пудоў зерня і 360 пудоў бульбы, а далі калгасу... тры дзесяткі яек? Вось запраўды, як у той казцы: зьнесла курачка яечка не прастое, а залатое!...

**Алесь Матусэвіч**

Пухавіцкі раён,
Менская вобласьць.

# З Крывіцкага Навуковага Т-ва Пр. Скарыны

Навуковае Таварыства Скарыны выдала ў вапошнім часе дзьве кніжкі:

**1. Уладзімер Жылка: «Творы»,** зборнік вершаў аўтара, што без пары ўмёр, высланы бальшавікамі. Жылка — адзін із выдатнейшых беларускіх паэтаў. Цана кніжкі ў Задзіночаных Штатах і Канадзе 1 даляр 25 цэнтаў, у іншых краёх ангельскае мовы 1 даляр, у засталых краёх раўнавартасьць 65 центаў.

**2. Др. Я. Статнкевіч: «Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) ў розныя пэрыяды гісторыі Беларусі».** Цана ў краёх ангельскае мовы 40 цэнтаў, у засталых краёх — раўнавартасьць 20 цэнтаў.

З Таварыства можна выпісваць дагэтуль выданыя нумары часапісу «Веда» (усяго 28 нумароў, цана цяпер кажнага нумару 15 цэнтаў) і іншыя кніжкі, выданыя Т-вам (цяпер цана зьменшана на палавіну), а таксама падручнік беларускае мовы (Граматыка) праф. Я. Станкевіча (цана 75 цэнтаў) і Новы беларускі песеньнік (цана 20 цэнтаў).

Усіх, каму пасылалася «Веда», у тым ліку кальпартэраў Таварыства просе барждзжэй разьлічыцца за яе, каб было з чаго выдаць наступную кніжку «Веды».

### АБВЕСТКА

Усіх тых, якія замовілі і дагэтуль не атрымалі грамафонных дыскаў Студэнцкага Ансамблю зь Лювэну, ветліва просіцца падаць зьмену свайго адрасу, калі гэткая зьмена была зроблена ад часу замоўленьня дыскаў. Калі-ж зьмена адрасу ня будзе пададзеная, Ансамбль ня зможа несьці адказнасьці за высыланыя на стары адрас дыскі. Пры гэтым папераджаецца, што грошы ў гэткім выпадку зварочвацца ня будуць.

**Ул. Бутрымовіч**

**УВАГА! УВАГА!**

Падаецца да ведама, што хутка выйдзе з друку зборнік песьняў «Ад родных ніў» апрацаваны Міколам Равенскім.

Усіх зацікаўленых просім зварочвацца на адрыс:
V. Scecka, 19, place Hoover, Louvain, Belgique.
Цана — 5 ам. даляраў або роўнавартасьць у іншых валютах.

## ШУКАЮЦЬ

Шукаю брата Леаніда Шабека, нар. 28. 7. 1928. Весткі слаць на адрыс:

Helen Schabeka
2460 Beaubien St., Montreal,
Canada

☆

Вікторыя Губэрт шукае сваіх сыноў: Браніслава з 1919 г., Францішка з 1926 г. і Станіслава з 1922 г., якія паходзяць зь вёскі Гарбачы (Случчына). Апошнія весткі ад першых двух былі перад капітуляцыяй спад Прагі. Весткі ласкава просім слаць на адрыс Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне:

Asociacion Bielorusaen Argentina
Buenos Aires
c. Coronel Sayos 2877,
Valentin Alsina

☆

Шукаю родных і знаёмых: Басэвіча Гаўрылу, Віньнікова Аляксандра, Лысова Міхалку, Сапунова Андрэя, Лахманава Міхася і Вудрыцкага Васіля зь Вяльніцкага, Круглянскага й Бярэзінскага раёнаў. Весткі слаць на адрыс:

Winnik Szymon,
128/61, rue de Nouveau Monde,
Roubaix, Nord, France.

**УВАГА! УВАГА!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны» выдала партрэт нашага найвялікшага паэты й прарока беларускага адраджэньня**

## Янкі Купалы

**з фотокопіяй собскаручнага подпісу паэты.**

**Партрэт выдадзены на добрай бліскучай паперы разьмерам 30×20 цэнтымэтраў. Цана аднаго партрэту 50 амэр. цэнтаў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце. Выпісваць з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» або з нашых Прадстаўніцтваў паза Нямеччынай.**

**Кажная беларуская арганізацыя, кажнае беларускае памешканьне павінна быць удэкараванае партрэтам Янкі Купалы!**

прайшло, ён як бы ня заўважаў ці стараўся ня заўважаць таго, што навокал яго рабілася.

Але ў глыбіні яго душы з гэтага расло страшнае пачуцьцё. Можа яно расло з таго, што гэтак неспадзявана і гэтакаю блізкаю стала да яго Андрэева сястра. Аміля сама заўважала гэта, і гэта яе мучыла. Яна не магла дзеля Бушмара сцурацца брата — там было ўсё роднае з малых дзён блізкае і знаёмае. Там было і праходзіла ўсё, чым поўнілася аж дагэтуль жыцьцё. Там былі і радасьці і гора. Таму ўва ўсе цяперашнія горкія хвіліны свае, яна заўсёды была там. І да Бушмара-ж яна была прывязана. Вялікаю і страшнаю цяпер для яе прычынаю. Яна цяпер пакутвала страшна. Ёй хацелася расказаць каму пра гэта. Але каму? Яна думала, што Андрэю ня можна гаварыць пра гэта, ён уведае з гэтага толькі адзін факт, больш нічога не зразумее, стане да гэтага як і ўсякі чужы. А Бушмар? У наступныя-ж дні пасьля тэй шалёнай ночы яна зноў стала ад яго плакаць. Ён рабіўся больш усё жорсткім, хоць часамі находзіла на яго нейкае чалавечае прасьвятленьне. Аднак-жа гэта была толькі слабая праява чалавечага пачуцьця, якое і ў яго недзе драмала. Аміля бачыла: гэта ня ёсьць блізасьць яго да яе, блізасьць таго Лявона, які ў першыя дні быў для яе ўсім.

Тая навала, якую прарочыў Вінцэнты, упарта насядала на Бушмара. Чым больш набліжалася восень, тым шырэй ішлі гаворкі пра гэта і ўсё больш адбіралі ў Бушмара гаспадарскі спакой.

Лета тады было гарачае, сухое. Гэтакага лета ніколі ня ведала Аміля. Штосьці чорнае, страшнае стаяла перад ёю. Гэта было няведаньне далейшага, роспач, які к канцу лета стаў зьяўляцца кажны дзень на доўгія гадзіны разам с пакутнымі думкамі. Бушмар быў бязьлітасным. Яна ўжо ня пытала больш, завошта ён зьнявідзеў яе. Гэтага ня трэба было пытаць. На гэта ён не сказаў-бы нічога. Ён сам можа жахнуўся-б, каб мог уразумець, што гэта-ж ён сапраўды страшна зьнявідзеў яе. Непатрэбнасьць тут Амілі панавала ў яго над усім. Яна была зьвязана праз Андрэя з тэй навалаю, якая ішла разам з восеньню.

За лета Аміля напакутавалася ў полі. Бушмар прынаймаў на поле людзей; яму было ўжо страшна, што Аміля тут сярод іх за гаспадыню. Людзі ня ведалі гэтага, ніхто ні пра што ня думаў. Але Бушмару здавалася ўсё пра людзкія думкі. Ён стаў думаць пра свае справы. Раней думак было ў яго мала, думаць ён ня прывык.

Лета канчалася сухімі днямі. Аміля ня прыкмячала больш росных раніц, ціхіх адвячоркаў. Усё стала няважным, другарадным. Цяпер сапраўды яна ўсё больш рабілася ў Бушмаравай хаце наймічкай.

Гаварыла з Бушмарам яна менш, а Бушмар і пагатоў маўчаў.

### XIV

Бушмар бачыў, як Аміля далей усё адыходзіла ад яго. Нейк гэта раптам заўважыў ён, у адзін сонечны дзень. Усё нагадвала тады блізкую восень. Сям-там жаўцеў лісток на дрэве, вялікая была ўжо атава на паплавох. Ён не здагадваўся, ня чуў, што Амілі цяжка зь ім. Ён ня мог гэтага ведаць з самое натуры свае. Сам-жа ён несьвядома адчуваў дзікую радасьць з усяго гэтага. «Можа яшчэ ён калі й будзе блізкі да яе, але ўжо быў тут канец».

Ён штосьці мармынуў быў ёй, але яна не адказала наўмысьля, ці не заўважыла. І гэта страсянула яго. Ён выйшаў на двор і агледзеў шпаркім зіркам навокал усё — зялёную рунь зямлі, лес, неба... і пайшоў так як ёсьць, бяз вопраткі, бяз шапкі за браму. Ён сеў на каня, каб завесьці яго на атаву, а выехаў за лес і прыпыніўся там. Ён доўга сядзеў так на сваім хутарскім дэрашу, трапаў яму грыву і стаў як дзіцё — радасным, бяз думак аб прычынах. Ён чуў, як вецер ідзе над лесам, трашчыць і гудзе ў верхавінах спрадвечных дрэў, падае на зямлю і вялікаю сьвежасьцю абдымае ўсё. Ён убачыў над лесам буйнага коршака і ня зводзіў зь яго вачэй. Ён, здавалася яму, чуў навет пах пер'я гэтае птушкі; і от ужо разьдзьмуліся яго ноздры, вочы сталі шпаркімі іскрамі. Ён пусьціў каня і сеў на зямлю. На траве, на хвойных шыпулях сядзеў ён доўга, так як бы тут было яго ўсё.

Перад гэтым-жа, у той самы дзень Аміля пераЖыла пакутную гаворку з братам. Ён ужо сам зьбіраўся ісьці да яе, бо сам ужо ведаў і чуў ад людзей.

— Я за ім замужам.

Гэта яна адказала брату.

— А як, зусім ці так сабе?

Ён гэта сказаў, бо бачыў, што яна сама зараз пра гэта будзе гаварыць. І ён пастараўся памагчы ёй лягчэй пачаць гэтую гаворку. Адказ яе быў гэтакі: яна страсянулася ўся і скрозь штучную цьвёрдасьць прарваўся плач.

— М-гу.

Ён толькі й выказаў гэта.

Пасьля яшчэ:

— Гэта я сам вінават. Я сам выправіў цябе з хаты служыць, гэта я сам давёў...

— Ніхто мяне ні да чога не даводзіў.

— Трэба рабіць зараз-жа канец усяму.

— Чаму канец?

— Уцякай адтуль і падавай у суд.

— Ён мяне адтуль ня гоніць.

Тады брат аж зазлаваў, доўга хваляваўся і гаварыў.

Так прайшоў той дзень. Яна пад вечар адна была дома, а Бушмара ўсё ня было. Ён ня прыходзіў доўга, ён сядзеў там усё, каля свайго каня, вечар пачаў агортаць яго, а ён якбы й ня думаў рушыць адсюль. Ён як-бы першы раз цяпер на жыцьці сваім адчуў моц водыру лясное зямлі, вялікую цішыню гэтае адзіноты тут, гарачую імклівасьць конскіх вачэй каля яго, пераможныя гукі вялікае птушкі над лесам...

Аміля ні за што ня бралася дома. Адвячорак спаткаў яе ў полі, з другога боку ад сялібнае брамы, там, дзе за агароджаю пачыналася іржышча на лясным выцерабе. «Ці ня паручнікаў гэта»? — тачыла яе сэрца крыўднае Бушмарава слова, якое яна чула ад яго навет гэтымі днямі, калі прынесла была сюды на кароткі час свайго малога...

Ля ног яе ляжала пустое іржышча. Над полем, над ёю, над усім вакольным чула яна — гуў лес. Яна сядзела на зямлі, маленькая, змучаная, без ранейшых жывых колераў у вачох.

Быў вецер, было чыстае неба і адзінота. Шумеў лес і маўчала поле.

**(Канец першай часткі)**